Гродна
№15 (473),
16 ліпеня 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# Мар’яна Бярнацкая як прыклад для пераймання



15 ліпеня адбылася пешая пілігрымка Гродна – Адамавічы – Навумавічы. Вернікі прыбылі на форт № 2 – месца спачыну расстраляных падчас II Сусветнай вайны жыхароў Гродна і Ліпска, каб ушанаваць памяць тых, хто ахвяраваў сваё жыццё. Там традыцыйна была адпраўлена св. Імша ў інтэнцыі загінулых. Сярод іх была і бл. Мар’яна Бярнацкая, якая нястомна імкнулася да святасці. Аддаючы жыццё за іншага чалавека, яна стала наступніцай самога Езуса Хрыста.

• працяг на с. 3

## Каляндар падзей

***22 ліпеня***
*Свята св. Марыі Магдалены.*

***25 ліпеня***
*Свята св. апостала Якуба.*

***26 ліпеня***
*Успамін свсв. Яўхіма і Ганны, бацькоў Маці Божай.*
*Дзень удзячнасці пажылым людзям, а таксама дзядулям і бабулям.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Ліпень***

*За тых, хто знаходзіцца ў водпуску і на канікулах – аб дары прадукцыйнага перажывання адпачынку.*
*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб добрай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***“Голас Евангелля”***
*Разважанні над Божым словам.*
*Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***“Сімвал веры”***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале “Беларусь–4”.*
***Чарговы выпуск – у жніўні.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.*
*Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку “Eutelsat Hotbird 13” на канале “Radio Vaticana Telepace”. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё.*
*У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**“Жыццё апосталаў павінна быць напоўнена малітвай”. Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 13, 1–23**

У той дзень Езус выйшаў з дому і сеў каля мора. І сабралася каля Яго мноства народу, так што Ён увайшоў у човен і сеў, а ўвесь народ стаяў на беразе. І шмат гаварыў ім у прыпавесцях, кажучы: “Вось выйшаў сейбіт сеяць. І калі ён сеяў, адны зярняты ўпалі пры дарозе, і наляцелі птушкі, і паклявалі іх. Другія ўпалі на камяністае месца, дзе не было шмат глебы, і адразу прараслі, бо зямля была неглыбокай. Калі ж узышло сонца, яны завялі і з-за таго, што не мелі каранёў, засохлі. Іншыя зярняты ўпалі ў церні, і выраслі церні, і заглушылі іх. А яшчэ іншыя ўпалі на добрую зямлю і прынеслі плён: адно ў сто разоў, другое ў шэсцьдзесят, а іншае ў трыццаць. Хто мае вушы, няхай слухае!”.

### ЯКАЯ ГЛЕБА Ў НАШЫМ СЭРЦЫ?

Дадзеная прыпавесць пра сейбіта ў пэўнай меры ўздымае пытанні аб нашых адносінах з Божым словам. Па-першае, як яго слухаем і наколькі разумеем ці, хаця б, імкнёмся зразумець. Па-другое, наколькі мы настойлівыя, г. зн. як моцна стараемся трываць у Хрысце, калі вымушаны змірыцца з незразуменнем, уціскам і нават пераследам. Па-трэцяе, ці не дазваляем часовым клопатам, багаццям, каштоўнасцям гэтага свету нас паглынуць, бо яны пазбаўляюць Божых пладоў. І, урэшце, ці прыкладаем намаганні, каб рэалізаваць Слова, любіць іншых, ці верныя мы Хрысту па-за сценамі касцёла.

Сённяшняе Евангелле з’яўляецца своеасаблівым рахункам сумлення з нашага рэлігійнага жыцця, вернасці Божаму слову і быцця хрысціянамі. Якой глебай з’яўляецца нашае сэрца? Як глыбока ў душу трапляе Божае слова? Ці можа яно прарасці ў нас, прынесці плён, пераменяючы нас саміх, а таксама тых, хто знаходзіцца побач?

**XVI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 13, 24–43**

Езус прапанаваў людзям іншую прыпавесць, кажучы: “Валадарства Нябеснае падобнае да чалавека, які пасеяў добрае насенне на полі сваім. Калі ж людзі спалі, прыйшоў вораг яго, пасеяў між пшаніцаю каласоўнік і пайшоў. Калі ж збажына ўзышла і дала плод, тады паказаўся каласоўнік. Прыйшоўшы ж, слугі гаспадара дому сказалі яму: «Пане, ці ж не добрае насенне пасеяў ты на полі сваім? Адкуль жа на ім каласоўнік?». Ён жа сказаў ім: «Вораг зрабіў гэта». А слугі сказалі яму: «Хочаш, мы пойдзем выпалаць яго?». Але ён сказаў: «Не, каб, выбіраючы каласоўнік, вы не павырывалі разам з ім і пшаніцы. Пакіньце расці разам тое і другое да жніва; і ў час жніва я скажу жняцам: збярыце спачатку каласоўнік і звяжыце яго ў пучкі, каб спаліць; а пшаніцу збярыце ў гумно маё»”.

### ЖНІВО НАБЛІЖАЕЦЦА

У сённяшнія часы назіраецца шмат войнаў, зла, несправядлівасці, нянавісці паміж людзьмі. У роспачы чалавек задае пытанні пра тое, дзе ў гэты момант знаходзіцца Бог, пра Яго справядлівасць, пра прычыны, па якіх дазваляе, каб так адбывалася. Прыпавесць, прыведзеная ў Евангеллі, тлумачыць, што Стварыцель дае чалавеку магчымасць выбару. Ён не загадвае неадкладна вырваць каласоўнік, пасеяны дрэнным чалавекам, які сімвалізуе злога духа, а дазваляе пустазеллю расці разам з пшаніцай. Пан дае чалавеку магчымасць самому вырашаць, калі пазбавіцца ў сваім жыцці гэтага каласоўніка зла, граху і адсутнасці любові, цярпліва чакае жніва – часу Божай справядлівасці. Хрыстос расказаў тую прыпавесць не каб запалохаць ці прымусіць пераменіцца. Ён толькі хацеў падкрэсліць, наколькі важна тое, што мы засяваем у сваім жыцці: пшаніцу, г. зн. дабро, любоў, праўду, справядлівасць, ці каласоўнік, які ўсё гэта заглушае, не дазваляючы расці.

Жніва набліжаецца. Дык зазірнём жа ў сваё сэрца, якое з’яўляецца глебай, каб паглядзець, што ў ім расце: пшаніца ці каласоўнік.

*Кс. Ян Раманоўскі*



**Слова рэдактара**
*Кс. Юрый Марціновіч*

# Бласлаўлёная ты, наша зямля!

*Нярэдка, падарожнічаючы па свеце, усведамляем сабе, які ён цудоўны і вялікі. У ім жылі асаблівыя людзі, якія пакінулі пасля сябе глыбокі след, што захапляе, а часам нават ашаламляе. Сёння Касцёл ставіць іх перад намі як узор для пераймання.*

У гэтыя ліпеньскія дні мы пілігрымавалі ў Навумавічы, дзе падчас ІІ Сусветнай вайны загінулі жыхары Гродна і Ліпска, просячы ўсемагутнага Бога аб супакоі паміж людзьмі ва ўсім свеце. Сярод расстраляных была таксама бл. Мар’яна Бярнацкая, якая дабравольна ахвяравала жыццё замест сваёй цяжарнай нявесткі.

Гэтая адважная жанчына становіцца перад намі як сведка веры, якой жыла штодня, выказваючы нязмерную прывязанасць да Хрыста. Яе жыццё было напоўнена Богам, любоўю, працай і цярпеннем. Кожны дзень жанчына пачынала малітвай і спевам Гадзінак. Затым бралася за работу: летам працавала на полі, а зімой прала лён і пяньку на кроснах. Ружанцовая малітва і набожныя спевы дапамагалі ёй годна пераносіць боль сіроцтва, спраўляцца з цяжкімі заняткамі і штодзённай нястачай.

Нягледзечы на ўсе перашкоды бл. Мар’яне ўдалося рэалізаваць евангельскі ідэал быцця вучнем Езуса: праз сваю беднасць, пакорнасць і цярплівасць. Нават жудасці войнаў не знішчылі яе веры. Даверылася Богу цалкам! Бласлаўлёная вучыць нас, што простае жыццё можа стаць шляхам да святасці, да якой пакліканы ўсе ахрышчаныя і асновай якой з’яўляецца любоў, што ажыўляе ўсе дабрадзейнасці: справядлівасць, працавітасць, чысціню, паслухмянасць, радасць… Быць святым – значыць ва ўсім прыпадобніцца да Хрыста: у думках, словах і ўчынках.

Мы часта недаацэньваем звычайныя штодзённыя моманты, хоць менавіта ў іх утоена найвялікшая каштоўнасць. Бл. Мар’яна паказвае, што любоў і шчасце дасягальныя, калі чалавек прыме ўласны свет, поўныя цяжкасцей і працы будзённыя дні. Вучыць паваzе да нашага “цяпер”, якое вельмі важнае, таму што “потым” можа быць ужо позна. Прыгадвае таксама: кожнаму варта імкнуцца да святасці, што павінна з’яўляцца сэнсам і мэтай існавання. Хоць і зможам дасягнуць дасканалай святасці толькі ў Небе – пасля жыцця ў барацьбе са злом і самім сабой.

**Дарагія Чытачы!**

Трэба старацца быць шчаслівымі ўжо тут, на зямлі. Неабходна ўмець радавацца, нягледзечы на хваробы, нястачу, цяжкасці, якія сустракаем штодня. Крыніцай шчасця з’яўляецца Бог. Калі будзем побач з Ім, сэрца напоўніцца радасцю.

Трымаймася Бога так, як гэта рабілі святыя! Трымаймася Бога так, як бл. Мар’яна!




# Чаму Ты плачаш, Марыя?

***Калі с. Луцыя дос Сантас – візіянерка з Фацімы – адыходзіла ў вечнасць, далёка ва Украіне, у маленькай мясцовасці Ніжанковічы, плакала фігура Маці Божай. Падобны цуд паўтараўся там з 2005 па 2007 год больш за 100 разоў. Людзі моцна сціскалі ў руках ружанцы, углядаліся ў твар фігуры і пыталіся: “Чаму Ты плачаш, Марыя?”. Але ніякага адказу – былі толькі слёзы…***

Ніжанковічы – нічым не прыкметны невялікі пасёлак на памежжы Украіны і Польшчы з насельніцтвам каля 2-юх тысяч чалавек. У гэтым месцы пабудаваны 3 святыні: каталіцкая, грэка-каталіцкая і праваслаўная. Паводле сведчанняў мясцовых жыхароў, “плач Марыі” абʼядnaў вернікаў розных канфесій. Цяпер яны шмат моляцца разам.

Упершыню фігура Марыі заплакала 5 студзеня 2005 года. Гэта ўбачыў тутэйшы католік, які прыйшоў, каб прыбраць у святыні. У замяшанні ён паклікаў іншых парафіян. Яны засведчылі тую ж незвычайную з’яву. Па словах мясцовых жыхароў, быў страшны мароз. Святая вада ў крапільніцы замерзла, а слёзы Маці Божай – не. Людзей апанаваў жах: чаму Найсвяцейшая Панна плача? Чаму плача ў іх?

Адказаў на гэтыя пытанні так і не знайшлі – шукаюць і па сёння. Кожны робіць свае высновы: індывідуальныя і глабальныя. Праз дзясятак гадоў ва Украіне пачалася крывавая разруха. Быць можа, Марыя загадзя суперажывала народу ва ўзброеным канфлікце, дзе брат ішоў на брата? А можа, Яна плакала з-за ненароджаных дзяцей, якія штодня гінуць у краіне падчас незабароненай практыкі абортаў? З часам пытанняў узнікала ўсё больш і больш.


*Фігура Маці Божай у санктуарыі ў Ніжанковічах*

Да 13 лютага 2005 года – дня смерці с. Луцыі – фігура плакала 40 дзён. Цуд паўтарыўся, калі паміраў Ян Павел ІІ. Слёзы назіралі на працягу 18-ці месяцаў кожны 13-ты дзень – дзень фацімскіх аб’яўленняў. Некаторыя сведкі гэтых падзей адзначаюць незвычайны пах руж, які стаяў у святыні. Асобныя святары прызнаюцца, што смакавалі слёзы – былі саланаватыя. Праведзеная экспертыза пацвердзіла: на фігуры з’яўляюцца сапраўдныя чалавечыя слёзы. Апошні раз Марыя заплакала ў Ніжанковічах 9 верасня 2007 года.

Як мінімум 3 разы ў пасёлку назіралі цуд Сонца, які некалі адбыўся ў Партугаліі. Сонечны дыскззяў рознымі колерамі. На яго можна было глядзець, не адводзячы вачэй. Маці Божая нібы хацела сказаць, што Яе пасланне ў Фаціме заўсёды і ўсюды актуальнае, заклік да навяртання, малітвы на ружанцы і посту – вельмі важны.

І зрабіла Яна гэта праз слёзы менавіта ў Ніжанковічах – месцы, вельмі цесна звязаным з Фацімай. Тут здаўна ўшаноўваецца Маці Божая, у святыні адбываюцца традыцыйныя набажэнствы першых субот месяца. Цяпер марыйны культ тут яшчэ больш развіўся, узмацніўся. У 2007 годзе парафія Святой Тройцы была рэарганізавана ў санктуарый пад тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Божага Провіду. На намоленай зямлі бесперапынна здараюцца шматлікія навяртанні, ацаленні, аздараўленні. Да святога месца штодня крочаць пілігрымы. Кожны лічыць сваім доўгам “дакрануцца” да болю Маці Божай, злучыцца з ім, ахвяраваць і ўзнагародзіць Беззаганнае Сэрца Марыі, якое выпрошвае для чалавека ўсе неабходныя ласкі. Бо моцна ўпэўнены: каб не Маці Божая – даўно прапалі б.

*Ангеліна Пакачайла*



Ганна Бярнацкая, выратаваная сваёй свякроўю, на месцы памяці мучанікаў II Сусветнай вайны

# Мар'яна Бярнацкая
## як прыклад для пераймання




Арыгінальны дакумент бл. Мар'яны Бярнацкай

● працяг са с. 1

### ДАРОГА ДА СВЯТАСЦІ

Мар'яна з роду Чакала нарадзілася ў 1888 годзе ў Ліпску над Бебжай (Польшча). Ва ўзросце 20-ці гадоў выйшла замуж за Людвіка Бярнацкага. Пара мела шасцярых дзяцей, чацвёра з якіх памерлі адразу пасля нараджэння. У 1929 годзе, пасля смерці мужа, жанчына пасялілася ў свайго сына Станіслава, які праз 10 гадоў ажаніўся з Ганнай Шымчык. З той пары Мар'яна дзяліла сваю штодзённасць з маладым сужэнствам, праяўляючы да яго асаблівы клопат, мацярынскую любоў і зычлівасць.

Жыццё бласлаўлёнай было напоўнена верай, каханнем, малітвай, працай і цярпеннем. Шмат часу яна прысвячала Богу. Стварыцель быў найважнейшым, таму шукала Яго не толькі ў касцёле, але і за межамі святыні. Выключнай пашанай ахінала Маці Божую, якую старалася пераймаць. Рэгулярна ўдзельнічала ў марыйных набажэнствах. Праз заступніцтва Найсвяцейшай Маці ядналася з Яе Сынам.

Была апосталам малітвы, праз што адкрывала Усемагутнага, які ўмацоўваў яе ў цяжкасцях штодзённага жыцця. Размова з Хрыстом служыла ўзмацненню духоўнай еднасці яе сям'і, якая станавілася моцная Богам. Не разлучалася з ружанцам. Ён займаў асаблівае месца ў жыцці жанчыны: быў для бласлаўлёнай скарбам, крыніцай, што развівала любоў да Бога і бліжняга.

Самае вялікае выпрабаванне для сям'і Бярнацкіх адбылося на мяжы чэрвеня і ліпеня ў 1943 годзе падчас масавых арыштаў жыхароў Ліпска і ваколіц, што сталі помстай гітлераўцаў за забіццё партызанамі нямецкага паліцая. У спіску асуджаных аказаўся таксама сын Мар'яны і яго жонка Ганна. Калі жанчына пачула загад нямецкага салдата, упала яму ў ногі і маліла, каб той выратаваў яе цяжарную нявестку: ***"Пане, а куды ж яна пойдзе? Пакіньце, я пайду за яе"*.** Салдат згадзіўся. Пасля 2-тыднёвага побыту ў гродзенскай вязніцы маці разам з сынам і іншымі арыштаванымі вывезлі на фарты каля Навумавічаў, дзе 13 ліпеня 1943 года расстралялі.

13 чэрвеня 1999 года папа Ян Павел II абвясціў бласлаўлёнымі Мар'яну Бярнацкую і іншых мучанікаў II Сусветнай вайны. ***"Мы адзначаем перамогу тых, хто ў нашым стагоддзі аддаў жыццё для Хрыста. Аддаў зямное жыццё, каб атрымаць яго навечна ў Боскай хвале. Таму мы слушна імкнёмся па іх прыкладзе верна крочыць за Езусам"*,** – гаварыў Святы Айцец у гаміліі падчас беатыфікацыйнай урачыстасці.

### ПАДЗЯКА ПАТОМКАЎ ЗА ЛЮБОЎ І САМААДДАНАСЦЬ

Спадар Станіслаў Бетко, праўнук бл. Мар'яны, успамінае, што калі быў малым хлопцам, яго бабуля Ганна Бярнацкая і цёця Леакадзія Чаркоўская часта расказвалі пра яе. ***"Гэта была простая, ціхая, пакорная і працавітая жанчына, адданая сваім блізкім. Бог і родны дом былі для яе цэлым сусветам. Я ганаруся сваёй прабабуляй,*** – падкрэслівае спадар Станіслаў. – ***Гэта вялікі дар мець бласлаўлёную сваячку. Думаю, менавіта дзякуючы яе заступніцтву наша сям'я здаровая і жыве ў згодзе. Пасля глыбейшага роздуму магу зрабіць выснову, што мой род павінен распаўсюджваць культ бл. Мар'яны, сцвярджаючы, што няма большай любові, чым тая, калі хто складае сваё жыццё ў ахвяру"*.**

Спадар Станіслаў таксама адзначае, што члены яго сям'і моляцца праз заступніцтва бл. Мар'яны, у 2-ую суботу ліпеня прыходзяць на адпуст у яе гонар, устаноўлены ў Элцкай дыяцэзіі, адкуль сваячка родам. ***"Штогод стараюся прыязджаць у Беларусь, каб прыняць удзел ва ўрачыстасцях на месцы смерці цывільнага насельніцтва ля форта № 2 у Навумавічах. Такім чынам хачу ўшанаваць прабабулю і хаця б трохі наблізіць яе жыццё і мучаніцтва беларускім пілігрымам"*,** – гаворыць спадар Станіслаў.



Праўнук бл. Мар'яны Станіслаў Бетко (2-гі злева) штогод стараецца ўдзельнічаць ва ўрачыстасцях на месцы расстрэлу ў Навумавічах

### ЗАСТУПНІЦА СВЕКРЫВЕЙ

У Ліпску, дзе нарадзілася бл. Мар'яна, знаходзіцца каменны абеліск з памятнай таблічай: ***"Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх" (Ян 15, 13). Бласлаўлёнай Мар'яне Бярнацкай, дачцэ Ліпскай зямлі, якая 13 VII 1943 года з любові да бліжніх склала ў ахвяру сваё жыццё..."*.** А ў мясцовым санктуарыі Маці Божай Базыльянкі знаходзіцца абраз бласлаўлёнай, да якога прыбывае ўсё больш пілігрымаў, а асаблівым чынам свякрові, каб выпрошваць для сябе і блізкіх патрэбныя ласкі.

Як вотум удзячнасці за герачны ўчынак імем бл. Мар'яны Бярнацкай названы Дом адзінокай маці ў Элку. Пра духоўнасць гэтай жанчыны гаворыцца ў малітоўніку "Я пайду за ёй", выдадзеным для мам і свекрывей у 2014 годзе на сродкі мясцовага "Карытас".

Як адзначае біскуп Ежы Мазур SVD, ардынарый Элцкай дыяцэзіі, на працягу апошніх гадоў у Ліпску арганізоўваецца Дыяцэзіяльная сустрэча свекрывей. Да 2014 года яна праходзіла ў свята Маці Божай Анёльскай, 2 жніўня. Аднак у 70-ую гадавіну смерці бл. Мар'яны была перанесена на 2-ую суботу ліпеня. На сустрэчу прыбывае вялікая колькасць сем'яў дыяцэзіі, а асаблівым чынам свякрові, удовы і нявесткі. У яе рамках адбываецца таксама набажэнства ў інтэнцыі абароны зачатага жыцця.

***"Прыклад нашай бласлаўлёнай дыяцэзіянкі спрыяе таму, што бачым у ёй у першую чаргу заступніцу свекрывей,*** – адзначае біскуп. – ***Але мы не абмяжоўваем асаблівую ролю бласлаўлёнай, бачым яе і як заступніцу ўдоў, нявестак, сем'яў. Яна заўсёды абараняла здаровыя адносіны ў сям'і. Гэта вельмі важна, асабліва сёння, калі сямейныя каштоўнасці перажываюць глыбокі крызіс, калі атакі скіроўваюцца на само паняцце сужэнства як саюзу жанчыны і мужчыны, яго неразрыўнасць. Прасіце аб заступніцтве бл. Мар'яны, каб адносіны паміж членамі сем'яў станавіліся лепшымі, прыгажэйшымі, больш чулымі"*,** – заахвочвае ардынарый Элцкай дыяцэзіі.

25 лютага 2017 года рэліквіі бл. Мар'яны былі ўнесены ў санктуарый Маці Божай Зоркі Новай Евангелізацыі і св. Яна Паўла II у Торуні (Польшча), дзе адбываюцца штомесячныя набажэнствы для жанчын.

Пра ахвярнае жыццё і гераічную смерць мужнай жанчыны да гэтага часу ўспамінаюць у шматлікіх гаміліях і канферэнцыях. Вернікі не перастаюць лічыць яе прыкладам для пераймання як у сямейным, так і ў парафіяльным жыцці.

*Кс. Юрый Марціновіч*
*і Кінга Красіцкая*




***Пасля страты некаторых людзей у душы ўтвараецца пустэча. Горка і балюча...***

*Не так даўно да Пана Бога адышла светлай памяці Клімянціна Сідлярэвіч з в. Танявічы (Шчучынскі дэканат). Простая вясковая жанчына, але надзвычай мудрая і разумная. За ёю ішлі, да яе прыслухоўваліся. Спадарыня Клімянціна была своеасаблівым маральным аўтарытэтам на вёсцы, такім стрыжнем, на якім усё трымалася.*

*Гэтай жанчыне ўсё балела: каб капліца была дагледжана, каб песні ў ёй спявалі самыя лепшыя... Яна запісвала ў сшытак прозвішчы нябожчыкаў, адпявала іх, малілася за вечны супакой. Часта можна было ўбачыць спадарыню ў святыні, дзе з бліскучымі вачыма яна звярталася да Бога ў розных патрэбах, з падзякай, праслаўленнем, бо моцна любіла Усемагутнага і давярала Яму сваё жыццё.*

*Таленавітая, неабыякавая, вялікай сілы духа. Выгадавала траіх дзяцей. Увогуле, была роднай для ўсіх. Камусьці – мамай, камусьці – цёткай, бабуляй.*

*Спадарыня Клімянціна ўсіх цягнула за сабою. У 1991 годзе ў вёсцы быў створаны фальклорны калектыў "Matczyna piosenka", ля вытокаў якога стаяла і яна, духоўны настаўнік і кіраўнік. Была адным з ініцыятараў таго, каб адраджаць мясцовую багатую культуру, перадаваць яе нашчадкам. Такім чынам, вось ужо 26 гадоў існуе песенны калектыў, які вядомы не толькі ў Беларусі, але і за межамі краіны. Дабро не прападае – мы беражліва захоўваем спадчыну бацькоў, дзядоў і прадзедаў, перадаючы яе з вуснаў у вусны далей з пакалення ў пакаленне.*

*Хутка пасля спадарыні Клімянціны да Пана адышла яе паплечніца, Рэгіна Тарасевіч. Шчодрая і добрая жанчына, якая таксама прычынілася да развіцця мясцовай культуры. "Званочак калектыву", як мы яе ласкава называлі...*

***Вечны супакой душам таневічанак. Няхай ім будзе Неба!***

*Тэрэса Адамовіч ад імя артыстаў фальклорнага калектыву "Matczyna piosenka"*




### *Папа Францішак*



*"Хто любіць бацьку ці маці больш, чым Мяне, не варты Мяне..." (Мц 10, 37). Любоў бацькі, пяшчота маці, салодкае сяброўства паміж братамі і сёстрамі – усё гэта, хоць і з'яўляецца вельмі добрым і абгрунтаваным, не можа пераўзыходзіць Хрыста. Не таму, што Пан хацеў бы, каб мы былі пазбаўлены пачуццяў і павагі, але, наадварот, таму, што пазіцыя вучня патрабуе прыярытэтных адносін з настаўнікам.*

*Кожны вучань – свецкі гэта чалавек, святар ці біскуп – павінен мець прыярытэтныя адносіны з Езусам. Можна зрабіць парафраз Кнігі Быцця: таму пакіне мужчына бацьку свайго і маці сваю і прылепіцца да Хрыста, і стануць яны адным целам (параўн.: Быц 2, 24). Той, хто жыве гэтай сувяззю любові і жыцця з Панам, становіцца Яго прадстаўніком, Яго паслом, найперш, праз свой спосаб быцця. У такой ступені, што сам Езус, адпраўляючы вучняў на місіі, кажа ім: "Хто прымае вас, Мяне прымае. А хто прымае Мяне, прымае Таго, хто паслаў Мяне" (Мц 10, 40). Трэба, каб людзі бачылі, што для гэтага вучня Хрыстос сапраўды Пан, сапраўды цэнтр, усё жыццё.*

*Фрагмент разважанняў перад малітвай "Анёл Панскі", 02.07.2017*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*

*Захлынуўшыся фальшывым разуменнем свабоды, чалавек ставіць сябе на месца Бога. Замест таго, каб верыць ва Усемагутнага, ён верыць толькі ў самога сябе. Так створаны Богам парадак ён пераварочвае з ног на галаву. У выніку сучасны свет перажывае мноства розных крызісаў і ліхаманкава шукае выйсця з іх. Але калі трэскаюцца сцены дома, то недастаткова толькі затынкаваць шчыліны: гэта нічога не дасць. Неабходна ўмацоўваць фундамент.*

*Тыя ж правілы існуюць у грамадстве. Хрыстос гаворыць, што дом свайго жыцця мы павінны будаваць не на пяску, а на добрым духоўным падмурку, якім з'яўляецца моцная вера, што павінна праяўляцца ў паўсядзённым жыцці. На жаль, духоўны стан сучаснага свету і нашай краіны не найлепшыя. Мы самі дабравольна паддаёмся вірусу секулярызму і не хочам прымаць вакцыну супраць гэтай заразнай хваробы. Калі забываемся аб сваіх хрысціянскіх каранях, а гонімся за ідэалогіямі, што не толькі не прызнаюць Бога, але таксама не шануюць чалавека, якога Бог стварыў па сваім вобразе і падабенстве, то разбураем фундамент нашай хрысціянскай цывілізацыі.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас св. Імшы ў Тракелях, 08.07.2017*




◆ *Папа Францішак прызначыў новага прэфекта Кангрэгацыі веравучэння. Ім стаў 69-гадовы арцыбіскуп Луіс Францыска Ладарыя Ферэра SJ, датычасовы сакратар гэтага найважнейшага ватыканскага дыкастэрыя. Да ўступлення ў Таварыства Езуітаў іерарх вывучаў права і тэалогію. Доктарскую дысертацыю абараніў у Папскім Грыгарыянскім універсітэце. Там жа пазней выкладаў дагматычную тэалогію, быў дэканам тэалагічнага факультэта, а пасля – віцэ-рэктарам. З 1995 года арцыбіскуп Ладарыя Ферэр быў кансультатарам Кангрэгацыі веравучэння. У 2004 годзе стаў генеральным сакратаром Міжнароднай тэалагічнай камісіі. З 2008 года выконваў абавязкі сакратара Кангрэгацыі веравучэння.*

◆ *Святы Айцец Францішак прыняў прадстаўнікоў італьянскай Лігі барацьбы з пухлінамі. Вітаючы гасцей, Пантыфік адзначыў, што дзейнасць гэтага інстытута прыносіць грамадству двайную карысць. З аднаго боку – гэта фарміраванне пазіцыі, што "прадухіленне анкалагічнага захворвання – стыль жыцця". 2-ім аспектам з'яўляецца развіццё валанцёрства як "узорнага выразу той бескарыслівасці, якая павінна мець усе больш уплыў на паўсядзённае жыццё".*

◆ *Ва Украіне дынамічна адраджаюцца месцы марыйнага культу, якія ў перыяд ганенняў на Касцёл у Савецкім Саюзе былі зачынены і зруйнаваны. У многія адбудаваныя за апошнія 25 гадоў святыні вяртаюцца абразы Маці Божай, якія ўшаноўваліся там на працягу пакаленняў. У бягучым годзе ў Чырванаград у Львоўскай архідыяцэзіі была перададзена выява Маці Божай, якая пакаленнямі ўшаноўвалася ў Белзе. Абраз Марыі вярнуўся таксама ў Наварыю каля Львова.*

◆ *У Табольску (Расія) асвечаны помнікі св. Яна Паўла II і св. Рафала Каліноўскага. Падзея была прысвечана 110-годдзю існавання там каталіцкага касцёла. На ўрачыстасць прыбыла дэлегацыя Пасольства Польшчы ў Маскве. Дыпламаты перадалі мясцовай парафіі рэліквіі св. Яна Паўла II. Мэр Табольска Уладзімір Мазур узрадаваўся прысутнасці ў горадзе часцінкі вялікага Пантыфіка і выказаў спадзяванне, што ў Табольск накіруюцца шматлікія пілігрымкі католікаў, якіх горад гатовы прыняць з адкрытым сэрцам.*

◆ *Песня "Уначы" ў выкананні с. Юліты Завадскай з Кангрэгацыі Місіянерак Святой Сям'і з Польшчы трымаецца на вяршыні хітоў радыё "Добрая Вестка". Гэта кароткі аповед пра духоўнае падарожжа кожнага чалавека і яго ўзыходжанне ад цемры да святла, якім з'яўляецца Хрыстос. Як распавядае вакалістка, спевы – яе даўняе захапленне. Некалькі гадоў таму манахіня атрымала дазвол і бласлаўленне настаяцеляў на гэтую справу і пачала дзейнічаць. Песню для яе напісалі аўтары вядомага праекта пад назвай "Адкажу". Праз некаторы час з'явіўся і кліп на песню.*

*credo.pro; deon.pl; pch24.pl*

*Ангеліна Пакачайла*

# Змагаемся са спакусамі, каб лепш пазнаваць, любіць і пераймаць Езуса

**У чэрвені ў доме сясцёр назарэтанак у Навагрудку ў 3-ці раз адбыліся духоўныя практыкаванні св. Ігнацыя Лаёлы: у маўчанні, са штодзённымі індывідуальнымі размовамі. У іх прыняло ўдзел больш за 40 асоб – духоўных і свецкіх – з розных куткоў Беларусі. Сустрэчы праводзіў а. Юзаф Аўгусцін SJ, вядомы польскі аніматар ігнацыянскіх рэкалекцый, аўтар шматлікіх кніг у вобласці духоўнага жыцця, якія публікуюцца таксама і ў нашай краіне.**

***А. Юзаф, як бы Вы акрэслілі ігнацыянскія рэкалекцыі?***

Няхай на гэтае пытанне адкажа сам св. Ігнацый: "Пад выразам «духоўныя практыкаванні» – піша ў сваёй аднайменнай кнізе – разумеецца кожны спосаб здзяйснення рахунку сумлення, разважання, сузірання, малітвы словамі і ў думках. [...] Як хадзьба, маршыраванне і бег з'яўляюцца цялеснымі практыкаваннямі, так духоўнымі называецца ўсе спосабы падрыхтоўкі і настройвання душы на пазбаўленне ад неўпарадкаваных пачуццяў, а пасля іх выдалення – да пошуку і адшукання Божай волі".

Ігнацыянскія рэкалекцыі – час інтэнсіўнай малітвы ў абсалютнай цішыні пад кіраўніцтвам духоўнага правадніка. Прадстаўляецца магчымасць глыбей зазірнуць у сябе, больш поўна пазнаць Бога. Чалавек пачынае разумець, кім з'яўляецца, якія мае патаемныя жаданні, да чаго Пан заклікае яго. Перад удзельнікам рэкалекцый адкрываецца духоўная перспектыва, абуджаецца надзея, паглыбляецца вера. Гэта адбываецца таксама тады, калі ён перажывае хвіліны слабасці, крызісу. Ігнацыянскія рэкалекцыі – прапанова для ўсіх, хто шчыра шукае Бога.

***Што ўяўляла сабой праграма сустрэч у Навагрудку?***

Цэнтр праграмы – уводзіны да малітвы, натхнёны Божым словам, а таксама індывідуальныя медытацыі. На рэкалекцыях у Навагрудку мы медытавалі перад выстаўленым Найсвяцейшым Сакрамантам у Фары Вітаўта, прыгожай гістарычнай святыні. Пасля многія скіроўваліся ў бакавую капліцу, каб памаліцца перад саркафагам 11-ці бласлаўлёных назарэтанак, якія былі расстраляны немцамі ў 1943 годзе. Памяць аб іх мучаніцтве з'яўляецца для нас запрашэннем да большай самаахвярнасці і шчодрасці ў адносінах да Бога. Любоў абавязкова патрабуе высілку, ахвяры.

Ігнацыянскія рэкалекцыі – гэта дасканалая школа малітвы, духоўнага змагання і распазнання.

Удзельнікі ігнацыянскіх рэкалекцый у Навагрудку могуць вярнуцца да духоўных практыкаванняў з дапамогай 3-ох тамоў рэкалекцыяніста, што прысвечаны ўводзінам, 1-му і 2-му тыдню

***Хто прымаў удзел у сёлетніх рэкалекцыях?***

На практыкаванні запісваюцца духоўна абуджаныя людзі, якія шукаюць блізкасці з Езусам. І зусім не важна, што яны неаднойчы бываюць згубленымі, загразлымі ў слабасцях, зраненымі. Бог стукаецца ў кожнае людское сэрца.

Сёлета было больш святароў і алюмнаў. Сярод іх – пераважна маладыя людзі. Нягледзячы на абавязкі і працу, яны выгадалі тыдзень часу выключна для Бога. Такая шчодрасць і духоўная ўцягнутасць прыносяць добры плён у штодзённым жыцці.

***Вы сказалі, што ў гэтым годзе на практыкаваннях было больш ксяндзоў. Якім чынам ігнацыянскія рэкалекцыі могуць дапамагаць святарам у парафіяльнай працы?***

Гэта важнае пытанне. На жаль, у нашых касцёлах рэдка вучаць глыбокай малітве, што абапіраецца на Божым слове. Я сам назіраў, працуючы некалі ў парафіі, як многія людзі, што маюць глыбейшыя духоўныя прагненні, мучацца, бо не ўмеюць уводзіць іх у жыццёвую практыку. Ім неабходны праваднік, які б навучыў іх малітве, духоўнаму распазнанню. І гэтаму павінен садзейнічаць душпастыр.

***Святар жа таксама недасканалы чалавек, і ён роўным чынам, як і астатнія, перажывае спакусы.***

Мы ўсе павінны маліцца і змагацца, як Езус у пустыні. А калі нават Яго спакушаў д'ябал, што ўжо казаць пра нас, кволых людзей. Злы дух атакуе таксама і нас, святароў, хто абвяшчае Божае слова, удзяляе сакраманты, дапамагае ўбогім, дае сведчанне веры. Таму маем асаблівую патрэбу ў інтэнсіўнай малітве, духоўнай барацьбе, паглыбленай аскетычнай практыцы. Мы змагаемся са спакусамі, каб са свабодным сэрцам магчы паўней пазнаваць Езуса, любіць Яго і пераймаць. А гэта галоўная мэта ігнацыянскіх рэкалекцый.

Падчас практыкаванняў я спасылаюся на Эвагрыя Панційскага, Айца Пустыні з IV стагоддзя. Яго вучэнне пра 8 духаў зла – гэта цудоўная дапамога ў барацьбе з дрэннымі думкамі, спакусамі. Эвагрый называў наступных духаў: абжорлівасць, нячыстасць, прагнасць, смутак, гнеў, апатыя, гонар і пыха. Ён падкрэсліваў, што час малітвы – гэта таксама час спакушэння. Тое ж казаў і св. Ігнацый Лаёла. Там, дзе ёсць большае дабро, неабходна большая малітва, каб не паддацца спакусе. Як у жыцці духоўных асоб, так і свецкіх. Знамянальна, што ў "Ойча наш" Езус нагадвае нам штодзённа маліцца: "не ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога".

***Які плён можа вынесці для сябе ўдзельнік ігнацыянскіх рэкалекцый?***

Медытацыя над Божым словам асвятляе жыццё, выпроствае звілістыя дарогі, лечыць хворыя душы, абараняе ад уласнай слабасці і грэшнасці, вучыць змагацца са спакусамі, адкрывае на любоў Бога і людзей, дае надзею на будучыню, дапамагае з'яднацца з уласным жыццём і бліжнімі.

Ігнацыянскія рэкалекцыі вядуць да арганізацыі беспарадкавых пачуццяў, што спрыяе асягненню ўнутранай раўнавагі паміж светам эмоцый і розуму. Сталая рэлігійнасць спасылаецца менавіта на "ratio recta" ("цвярозы розум") і на здаровае сумленне. Ігнацыянскія практыкаванні вучаць таксама з зацікаўленасцю падыходзіць да чалавека і таму з'яўляюцца добрай процівагай для тых рэлігійных рухаў, якія часцей спасылаюцца на свет эмоцый.

На працягу многіх гадоў я супрацоўнічаў з рухам "Аднаўленне ў Святым Духу". Гэты досвед, спалучаны з перажываннем ігнацыянскіх рэкалекцый, прыносіў цудоўныя плады духоўнай і рэлігійнай сталасці, дзе спантаннасць з'яднана са здаровым сэнсам, энтузіязм – з духоўнымі ведамі. Трэба памятаць, што эмоцыі, пазбаўленыя розуму, бываюць небяспечнымі. Правы розум, асвечаны верай, – гэта аснова кожнага чалавечага дзеяння, асабліва на рэлігійным полі. Чалавек створаны як інтэлектуальная істота. Рэлігійны фанатызм вельмі небяспечны менавіта таму, што ў ім асоба не выкарыстоўвае розум.

***У Беларусі таксама публікуюцца Вашы разважанні, заснаваныя на ігнацыянскіх рэкалекцыях.***

Гэта якісьці знак Провіду. Кнігі, што выдаюцца ў "Pro Christo" ў Мінску, з'яўляюцца літаральна нашымі падручнікамі для духоўных практыкаванняў. Яны вельмі прыдатныя. Так удзельнік рэкалекцый можа вярнуцца да практыкаванняў у штодзённым жыцці, ужо пасля спаткання.

***Гэтых разважанняў ажно 6 тамоў?***

Поўнасцю ігнацыянскія рэкалекцыі трываюць 30 дзён. Але хто мог бы дазволіць сабе месяц інтэнсіўнай малітвы? Таму мы раскладваем практыкаванні на этапы, так званыя "ігнацыянскія тыдні".

Рэкалекцыі – гэта дарога, што мае сваю дынаміку. Патрабуе стойкасці, духоўнай уцягнутасці. У бягучым годзе ў Навагрудку мы стварылі фундамент – першы і другі тыдзень.

***Якая перспектыва ігнацыянскіх рэкалекцый у Беларусі?***

Я прыязджаю сюды з радасцю па запрашэнні пастыра Гродзенскай дыяцэзіі. Аднак мне хацелася б, каб гэтыя рэкалекцыі сталі справай кожнага святара. Многія ксяндзы цікавяцца імі. Гэта незвычайная прылада апостальскай працы, святарскай і манаскай фармацыі, фармацыі свецкіх асоб, уцягнутых у жыццё Касцёла. Таму такія духоўныя практыкаванні павінны перажываць, у першую чаргу, самі ксяндзы, каб пасля на аснове ўласнага прыкладу прагнулі запрасіць да перажывання рэкалекцый сваю паству. Гэтыя практыкаванні – вялікі душпастырскі шанс.

Практыкаванні – гэта "духоўны палігон". На палігоне салдаты не выйграюць ваенных бітваў, а рыхтуюцца да іх. Падобна і ўдзельнік рэкалекцый падчас духоўных практыкаванняў рыхтуецца да барацьбы, якой з'яўляецца само жыццё.

На заканчэнне рэкалекцый у Навагрудку я заахвочваў удзельнікаў да малітвы ў інтэнцыі дадзенай справы ў Беларусі. Канешне, гэта сціплы пачатак, маленькае гарчычнае зярнятка. Але калі мы будзем працаваць, яно з Божай ласкай можа стаць вялікім дрэвам.

*Кс. Юрый Марціновіч*




# Прыгоды кіроўцы каталіка

**25 ліпеня Касцёл успамінае св. Хрыстафора – апекуна ўсіх, хто знаходзіцца ў дарозе: кіроўцаў, падарожнікаў і пілігрымаў. У гэты дзень у святынях бласлаўляюць вадзіцеляў і іх транспартныя сродкі.**

**Ён аб'ездзіў каля 15-ці краін свету, праехаў сотні тысяч кіламетраў. Шмат дзе быў, шмат што бачыў. Але ён не перастае здзіўляцца багаццю гэтага свету, праз што адкрывае для сябе прыгажосць Стварэння. Асабліва яго ўражвае вера, якая адна на ўсіх, але такая разнастайная.**

## ЯК ПРЫВЁЎ ПРАТЭСТАНТА Ў КАСЦЁЛ

Алег Сенкель з Гродна займаецца грузаперавозкамі 8 гадоў. У гэтым яму дапамагае жонка – вядзе бухулік. Разам з 2-ма маленькімі сынамі яны кожны раз чакаюць тату з дарогі на гарачую вячэру.

Алег стараецца не затрымлівацца ў шляху, каб максімальна больш часу праводзіць з сям'ёй. Выхадныя дні – па мажлівасці дома, таму да гэтага часу імкнецца вярнуцца з рэйса. Але здараюцца розныя выпадкі. Калі-нікалі даводзіцца спыняцца ў чужой краіне. І тады Алег шукае парк ці стаянку паблізу касцёла, каб пайсці ў нядзелю на св. Імшу. Адзначае, што вельмі важна запланаваць "святы дзень святкаваць", як прадпісана ІІІ Божай запаведдзю.

***"Некалькі разоў я спыняўся на выхадных у Додрэхце, у Галандыі,*** – распавядае кіроўца. – ***Уладальнік кампаніі, да якога я ехаў, – пратэстант. Неаднаразова ён падвозіў мяне па просьбе ў касцёл. Першапачаткова чакаў на вуліцы, не згаджаючыся зайсці ўнутр. А апошні раз ён быў з жонкай і дзецьмі. Пасля св. Імшы якраз адпраўлялася маёвае набажэнства, выстаўляўся Найсвяцейшы Сакрамант. Стала неяк няёмка, што людзі чакаюць мяне столькі часу. І я выйшаў на хвілінку і запрасіў іх у святыню. Яны зайшлі... Бачыў, наколькі іх гэта ўразіла. І быў тым вельмі ўсцешаны".***

## ЖАНЧЫНА Ў АРНАЦЕ?!

Па словах Алега, часам даводзіцца пераадолець 5–10 км пешшу, каб, увогуле, знайсці касцёл. ***"Аднойчы іду я па Гановеры, у Германіі, і бачу святыню,*** – успамінае. – З***даецца, нічым не адрозніваецца ад каталіцкай. Заходжу і бачу ля алтара... жанчыну ў арнаце! Адпраўляе св. Імшу. Спярша я замешкаўся, а потым зразумеў: знаходжуся ў пратэстанцкай святыні. Выйшаў і, на шчасце, літаральна праз метраў 300 натрапіў на касцёл".***

У размове з Алегам высвятляецца, што ў Еўропе вельмі часта каталіцкія святыні закрытыя на працягу дня, адкрываюцца толькі падчас цэлебрацыі св. Імшы. Іншая справа – у Польшчы, дзе і духавенства на вуліцах сустрэнеш часцей. Алег нават зрабіў сабе пастанову: як убачыць манаха ці законную сястру, моліцца ў інтэнцыі кансэкраванай асобы "Ойча наш".

## КУЧАРАВЫЯ ВАЛАСЫ МАЦІ БОЖАЙ

Як адзначае Алег, у любым касцёле свету той жа парадак літургіі, тыя ж мелодыі – адрозніваецца толькі мова. Але ў сэрцы ты ўсё роўна разумееш сэнс усяго, што адбываецца, і таму свабодна злучаешся з прысутнымі ў вялікай таямніцы веры.

***"У Бельгіі, у Антверпэне, я трапіў на св. Імшу ў грэка-каталіцкую святыню,*** – распавядае Алег. – ***І, як гэта не дзіўна гучыць, пачуў там... родную мову! Так далёка: больш за паўтары тысячы кіламетраў ад дома. На Эўхарыстыю сабралася беларуская дыяспара. Больш за ўсё мяне ўразіла, што на літургіі прысутнічалі і бельгійцы. Спецыяльна для іх святар чытаў Евангелле на балонскай мове. Пасля таго, як св. Імша скончылася, я не мог не пацікавіцца ў бельгійцаў, чаму яны прыходзяць на літургію, якая цэлебруецца на незразумелай ім мове. І што яны адказалі? «У вас на малітве адчуваем сакрум»".***

Суразмоўца з захапленнем узгадвае некаторыя асаблівасці ментальнасці "замежнай" веры, якія яго ашаламілі: ***"У Германіі здзівіла, што святую Камуню вернікі атрымліваюць у рукі і толькі пасля прымаюць да вуснаў. А ў Іспаніі ўразілі фігуры ў святыні. Яны выглядаюць як лялькі! Маці Божая – з вялікай пышнай прычоскай, кучаравымі светлымі валасамі, у струменістай блакітнай сукенцы. Фігуры не такія, як у нас, выразаныя з дрэва ці каменя, а ў прыгожым адзенні, парыках. Аказваецца, вернікі нават час ад часу мяняюць на іх нарады".***

## НАЧЛЕГ У ПЛЯБАНІІ

Алег з неахвотай успамінае дарожна-транспартнае здарэнне, у якое трапіў за мяжой. Прызнаецца, што падчас малітвы душу ахінаў супакой. Нібы хтосьці запэўніваў, што ўсё будзе добра. І дадае: заўсёды адчувае Божую апеку.

***"Памятаю, аднойчы на зваротным шляху ў мяне зламаўся аўтамабіль. Прыехаў я ў аўтасервіс, а там працоўны дзень ужо скончыўся. Што ж, падумаў, вымушаны буду затрымацца. Пачаў шукаць начлег. І вось іду я вуліцамі горада Слубіцы, гэта было ў Польшчы, бачу касцёл, дзе гарыць святло. А ўжо змяркалася. Мяне гэта здзівіла. Зайшоў у святыню, памаліўся. Моладзь якраз рэпеціравала інсцэніраваны Крыжовы шлях. Паблізу стаяў святар. Я падышоў да яго, прывітаўся. І спытаў, ці знойдзецца для мяне які арэндны пакой, каб пераначаваць. Святар патлумачыў, што ў гэты час у парафіі праходзяць рэкалекцыі, таму шмат гасцей і месца, на жаль, няма. Я падзякаваў, укленчыў перад табернаклем і ўжо сабраўся пакінуць святыню, як ён аклікнуў мяне: «Пачакай! Хоць, ведаеш... будзе адно месца». Я вельмі ўзрадаваўся і пайшоў за ім. Святар прывёў мяне ў пакой у плябаніі і сказаў: «Тут пераначуеш». Раніцай я склаў ахвяру і разгаварыўся з закрыстыянінам. Распавёў яму пра ўчарашні выпадак, на што той усміхнуўся і сказаў: «А я думаю, чаго гэта ксёндз палез на гарышча са спальным мяшком»...".***




Па словах Алега, найдаражэйшы скарб, атрыманы ад Бога, – гэта сям'я

Алег упэўнены, што вера дапамагае ў дарозе пераадольваць усе цяжкасці, разлуку. ***"Я заўсёды малюся за сваю сям'ю, калі знаходжуся ў ад'ездзе, не побач,*** – гаворыць ён. – ***Жонка са свайго боку таксама абяцае малітоўную падтрымку. І я яе адчуваю".***

## ІКОНА НА МЫТНІ І НАБОЖНЫ ПАЛІЦЭЙСКІ

Алег аб'ездзіў Расію, Украіну, Польшчу, Літву, Балгарыю, Румынію, Грэцыю, Германію, Бельгію, Нідэрланды, Францыю, Іспанію, Чэхію, Аўстрыю, Швейцарыю. Як заўважае, усе гэтыя краіны – хрысціянскія. ***"Балгарыя – праваслаўная. Памятаю, на мытні вісела вялікая ікона,*** – узгадвае ён. – ***Нямецкая Баварыя – каталіцкая. У дарозе мяне аднойчы спыніў паліцэйскі і прывітаўся: «Grüß Gott!», што ў перакладзе з нямецкай на беларускую – «Шчасці Божа!». Вельмі прыемна".***

Па словах кіроўцы, дарога фарміруе, дае разуменне жыцця. "***Едзеш і дзівішся, як Бог стварыў гэты свет. Ён нібы і такі вялікі, і ў той жа час такі маленькі... Работа, без сумненняў, у мяне цікавая. Я, напэўна, і падаўся ў кіроўцы, таму што не магу сядзець на месцы, мяне заўсёды цягне кудысьці наперад. Але, усё-ткі, лепш падарожнічаць з сям'ёй. У пілігрымцы, напрыклад",*** – дадае ў задуменні і ўсміхаецца.

*Ангеліна Пакачайла*




## Малітва кіроўцы

**Божа, дай мне ўпэўненую руку і зоркае вока, каб я нікому не прычыніў шкоды ў дарозе. Даўца жыцця, не дазволь, каб я стаў прычынаю смерці альбо прычынаю калецтва тых, каму Ты даў жыццё. Захавай, Пане, ад няшчасных выпадкаў тых, хто падарожнічае са мною. Навучы мяне карыстацца транспартным сродкам для дабра маіх бліжніх і стрымай спакусу празмернай хуткасці. Учыні, каб хараство свету, створанага Табою, і радасць Тваёй ласкі заўсёды мне спадарожнічалі. Амэн**




Catholic.by

### У Паname прэзентавалі гімн Сусветных дзён моладзі 2019

***Яго афіцыйная прэм'ера адбылася падчас 47-ай сустрэчы "Вячэра Хлеб і Віно".***

*Аўтар тэксту і музыкі гімна "Няхай мне станецца паводле Твайго слова" – панамец Абдыэль Хімэнэс. Твор быў выбраны сярод 56-ці варыянтаў, дасланых у межах аб'яўленага конкурсу.*

*"Мы шукалі той, які як мага лепш адлюструе, чым з'яўляецца Касцёл, а таксама нагадае заклік папы Францішка на бліжэйшыя СДМ", – адзначыў генеральны сакратар арганізацыйнага камітэта СДМ у Паname Біктар Чанг Гансалес.*

CatholicNews.by

### Фільм з удзелам Пантыфіка прадстаўлены на прэмію "Оскар"

***Паказ кінастужкі "Papa Francesco: La mia idea di arte" ("Папа Францішак: мая ідэя мастацтва") адбыўся ў Ватыканскіх музеях.***

*Дакументальная 45-хвілінная стужка знята на падставе размоў са Святым Айцом, якія правяла аўтар з Італіі Тыцыяна Лупі і аргенцінскі акцёр Алехандра Мармі. У фільме ідзе гаворка пра 11 знакамітых твораў розных гістарычных перыядаў з Ватыканскіх музеяў, на фоне якіх папа Францішак паказвае сваё бачанне і разуменне мастацтва. Святы Айцец разглядае яго з аднаго боку як прыладу евангелізацыі, а з другога – як спосаб супраціўлення культуры непрымання.*




### Турынская плашчаніца вывучана на атамным узроўні

***У выніку даследаванняў група італьянскіх навукоўцаў прыйшла да высновы, што Турынская плашчаніца кантактавала з крывёй жорстка забітага чалавека.***

*"Мы засярodзіліся асаблівым чынам на частках матэрыялу, што аддалены ад плям бачных пад аптычным мікраскопам, – патлумачыў адзін з вучоных Элвіа Карліна. – Шукалі наначасціцы арганічнай прыроды. Знойдзеныя на палатне элементы ўказваюць на біялагічнае паходжанне і з'яўляюцца ў заўважаных прапорцыях у крыві асоб падчас цяжкай траўмы, пасля катаванняў".*

*Кінга Красіцкая*

## Новапрэзбітэры ў Тракелях падзякавалі за дар паклікання

*Разам з імі Богу дзякаваў за 25-гадовы юбілей святарскага служэння кс. Леон Ладыш.*



Св. Імшу ў дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў узначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Іерарх заклікаў прысутных да асаблівай малітвы ў інтэнцыі святароў і іх служэння, каб маглі годна рэалізоўваць сваё пакліканне.

Біскуп Юзаф, які шмат гадоў быў рэктарам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне і адказным за фармацыю маладых святароў у дыяцэзіі, адзначыў, што сам Бог кліча чалавека да служэння ў Касцёле і надзяляе яго адпаведнымі якасцямі, каб той мог весці людзей да Пана. Пастыр таксама заклікаў усіх прысутных агарнуць сваімі малітвамі маладых людзей, якія носяць у сабе думкі аб святарскім або манаскім жыцці.

Св. Імша завяршылася прыміцыйным благаслаўленнем, якое вернікам удзялілі новапрэзбітэры.

## Мітрапаліт Рыжскі наведаў Гродзенскую дыяцэзію

*У рамках візіту арцыбіскуп Збігнеў Станкевіч цэлебраваў св. Імшу ў гродзенскай катэдры, а таксама наведаў санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях.*



Урачыстая літургія з удзелам Мітрапаліта Рыжскага і біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча адбылася ў касцёле св. Францішка Ксаверыя на наступны дзень пасля ўрачыстасцей у Тракелях. Звяртаючыся да сабраных вернікаў з гаміліяй, арцыбіскуп адзначыў, што "калі мы вучымся быць шчаслівымі праз прастату, сястру пакоры, гэта вырашае мноства праблем, пазбаўляе ад лішніх патрэб і, нарэшце, дазваляе расслабіцца. Хрыстос – увасабленне гэтых дабрадзейнасцей – заклікае ісці за сабой і запэўнівае, што ніколі не падмане".

На заканчэнне св. Імшы Мітрапаліт Рыжскі ўдзяліў прысутным пастырскае благаслаўленне і заклікаў кожнага памятаць пра тое, што здольнасць пазнання Найвышэйшага Творцы "схавана ад пагардлівых і мудрых гэтага свету, але захавана для сціплых і пакорных сэрцам".

## Канікулы з "фацімскім акцэнтам" прайшлі ў Сапоцкіне

*Час, супольна праведзены дзецьмі на малітве, экскурсіях і забавах, паспрыяў іх узрастанню ў веры і ўсталяванню новых сяброўскіх стасункаў.*



Падчас "Канікул з Богам" у парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча хлопчыкі і дзяўчынкі знаёміліся з фацімскім пасланнем, якое Маці Божая 100 гадоў таму перадала свету. Імкнуліся рэалізоўваць яго ў жыцці: штодня маліліся на ружанцы і разважалі над словамі, прамоўленымі Панной Марыяй.

Цэнтральнай падзеяй кожнага дня была св. Імша, падчас якой дзеці разам з апекунамі ахвяравалі свае малітвы ў розных інтэнцыях: за хворых, церпячых, а найперш за грэшнікаў, памятаючы пра якіх заклікала Маці Божая.

Падчас канікул быў таксама арганізаваны выезд у Нясвіж, Мір, Гродна, дзе дзеці маглі пазнаёміцца з багатай гісторыяй і культурай беларускай зямлі.

## Вернікі з Ліды наведалі святыні Гродзеншчыны

*Разам з душпастырам кс. Юрыем Браганскім група пілігрымаў здзейсніла паломніцтва па навагрудскіх і карэліцкіх землях.*



Спачатку вернікі завіталі ў касцёл у Бярозаўцы, затым памаліліся ў старэйшай святыні Беларусі, што знаходзіцца ва Уселюбе, а пасля накіраваліся ў Навагрудак. Там наведалі Белую Фару і касцёл св. Міхала Арханёла, прынялі ўдзел у св. Імшы, пазнаёміліся з дзейнасцю сясцёр назарэтанак і пабывалі на месцы мучаніцкай смерці 11-ці манахінь з Навагрудка. На далейшым шляху завіталі ў Карэлічы, Варончу, Райцу і наведалі касцёл у Рандзілаўшчыне.

"Яскравай часткай пілігрымкі сталі таксама візіты ў невялікія парафіі, такія як Стараельня ці Дварэц, дзе на Імшы збіраецца толькі каля 10-ці вернікаў. Прыемна было бачыць радасць на тварах мясцовых парафіян, якія цешыліся са спеву вялікай групы пілігрымаў. А нас было каля 70-ці чалавек. Паломнікі нібы ўдыхнулі жыццё ў гэтыя святыні", – адзначыла адна з удзельніц пілігрымкі Ганна Міцкевіч.

На зваротнай дарозе вернікі маліліся Ружанцам і дзякавалі Богу за паломніцтва.

## Перагрынацыя фацімскай фігуры пачалася ў Смаргонскім дэканаце

*Першай парафіяй, якую наведала статуя Панны Марыі, стала парафія Маці Божай Ружанцовай у Солах. Фігура была перададзена з Астравецкага дэканата, з парафіі ў Гудагаі.*



На прывітанне сабралася шмат вернікаў, у тым ліку дзяцей. Маленькія парафіяне сустракалі Маці Божую з песнямі. Гэта было кранальна і сімвалічна, бо ў Фаціме Марыя аб'явілася менавіта дзецям. Св. Імшу ў мясцовым касцёле ўзначаліў дэкан Смаргонскага дэканата кс. Леанард Станкоўскі. Святар даверыў Маці Божай парафіяльную супольнасць, просячы, каб Марыя мела ў сваёй асаблівай апецы ўсіх яе членаў.

Пасля літургіі кожны з прысутных мог індывідуальна памаліцца перад абліччам Маці Божай.

## АНОНСЫ

### ЭКУМЕНІЧНАЯ ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ВЫРУШЫЦЬ З БЕЛАСТОКА Ў ВІЛЬНЮС

**16 жніўня пад дэвізам "Любі" (параўн.: Мц 22, 37) стартуе юбілейная XXV Пешая экуменічная пілігрымка Беласток – Гродна – Вільнюс, прымеркаваная да 90-годдзя каранацыі абраза Маці Божай Вастрабрамскай. У Гродна пілігрымы прыбудуць 18 жніўня, а ў Вільнюс – 24 жніўня.**

За 9 дзён паломнікі пройдуць каля 280 км, наведваючы па дарозе каталіцкія і праваслаўныя святыні. На працягу ўсяго шляху ўдзельнікі паломніцтва перажываюць выключныя рэкалекцыі па аднаўленні свайго духоўнага жыцця. Разам з тым, маюць магчымасць пазнаць гасціннасць польскага, беларускага і літоўскага народаў.

**Маршрут:**
Беласток – Шудзялова – Кузніца – Гродна – Азёры – Новы Двор – Радунь – Бутрыманцы – Яшуны – Вільнюс.

*Аб жаданні далучыцца да пілігрымаў неабходна паведаміць да 20 ліпеня каардынатару пілігрымкі з беларускага боку кс. Паўлу Безляповічу па тэлефоне: (8 029) 266-77-03.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА МІНІСТРАНТАЎ АДБУДЗЕЦЦА Ў ЛІДЗЕ

**Спатканне пройдзе 11–13 жніўня ў парафіі Святой Сям'і.**

Да ўдзелу запрашаюцца міністранты з усіх парафій Гродзенскай дыяцэзіі.

*Атрымаць больш падрабязную інфармацыю аб сустрэчы і паведаміць аб удзеле міністрантаў пробашчы могуць да 30 ліпеня адказным за Літургічную службу алтара ў Гродзенскай дыяцэзіі па тэлефонах:*
*(8 029) 888-18-29 – кс. Антоній Абухоўскі,*
*(8 029) 285-27-47 – кс. Юрый Гурскі.*

### МАЛАДЫЯ КАТОЛІКІ З БЕЛАРУСІ ЗАПРАШАЮЦЦА ДА ЎДЗЕЛУ Ў ФЕСТЫВАЛІ "PRZYSTAŃ MŁODYCH" ("ПРЫСТАНЬ МАЛАДЫХ")

**Адмысловае евангелізацыйнае мерапрыемства для моладзі штогод праводзіцца ў розных кутках Польшчы. Сёлета фестываль пройдзе 31 жніўня – 2 верасня ў Беластоку.**

**Умовы ўдзелу:**
- узрост ад 15-ці гадоў,
- з сабой мець Біблію і нататнік.

Гасцямі фестывалю стануць вядомы рэкалекцыяніст кс. Кшыштаф Кралка SAC, акцёры Дарыюш Кавальскі і Патрыцыя Хурлак, педагог і музыкант Дабрамір Макоўскі, госпел гурт "Trzecia Godzina Dnia", гурт "Powołani By Wielbić".

"Хочаш вырвацца з цемры? Перажыць блізкія адносіны з Богам? Патанчыць і паспяваць, а галоўным чынам – праславіць Бога? Падавай заяўку на «Przystań młodych»", – заахвочваюць арганізатары.

### ПАРАФІЯ Ў КАРОБЧЫЦАХ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў ПОЛЬШЧУ

**Праграма аўтобуснай пілігрымкі прадугледжвае наведванне вядомых польскіх святынь і гарадскія экскурсіі.**

**Маршрут:**
Гродна – Кракаў – Вялічка – Кальварыя Зэбжыдоўска – Чанстахова – Гродна.

**Час пілігрымкі:**
7–10 верасня.

*Дадатковая інфармацыя па тэлефонах:*
*(8 0152) 67-47-24, (8 029) 583-07-02, (8 029) 887-10-24.*

### ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ВЫРУШЫЦЬ З ГРОДНА Ў РОСЬ У 16-ТЫ РАЗ

**Паломніцтва ў санктуарый Езуса Журботнага пройдзе 4–6 жніўня пад дэвізам "Праз Марыю да Езуса".**

Пілігрымка па традыцыі выйдзе з касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы). Св. Імша на распачацце адбудзецца ў 7.00.

*Заяўкі на ўдзел у паломніцтве прымаюцца штодня ў касцёле Гродна-Паўднёвы або па тэлефонах: (8 029) 784-05-72, (8 044) 460-61-40, кс. Юрый Марціновіч. Там жа 2 жніўня ў 20.00 адбудзецца арганізацыйная сустрэча.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**16 ліпеня 1973 г.** – кс. Адам Вайцяхоўскі, *проб. Гудагай;*
**16 ліпеня 2006 г.** – бр. Бярнард Бяленік OFMConv., *Гальшаны–Гродна;*
**18 ліпеня 1946 г.** – кс. канонік д-р Альбін Ярашэвіч, *проб. Гродна;*
**23 ліпеня 1955 г.** – кс. Юзаф Кавальчук, *проб. Індура;*
**24 ліпеня 1963 г.** – кс. Францішак Пятровіч, *проб. Нястанішкі;*
**26 ліпеня 1993 г.** – кс. Станіслаў Шока SDB, *душп. Ліда;*
**26 ліпеня 2009 г.** – кс. прэлат Мар'ян Маргуж, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**27 ліпеня 1932 г.** – кс. Антоній Аўдыцкі, *проб. Заневічы.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# СВЯТАРСКІЯ КАНІКУЛЫ

**У парафіі, у бацькоў, у пілігрымцы ці на ўлоні прыроды – так выглядае водпуск большасці ксяндзоў. Час адпачынку духавенства выкарыстоўвае, каб, аднавіўшы дух і цела, з запалам вярнуцца да сваёй штодзённай паслугі, каб яшчэ лепш служыць сярод тых, да каго скіраваў Касцёл дэкрэтам біскупа ардынарыя.**

## ПРАВА НА АДПАЧЫНАК

Адзін з каталіцкіх інтэрнэт-парталаў змясціў наступную гісторыю: “Пэўнае сужэнства пасялілася ў пансіянаце недалёка ад пляжа. Калі пара прыходзіла ў сталовую, каб падсілкавацца, заўсёды бачыла там мужчыну, які ўвесь час еў у адзіноце. Ляжаў на пляжы і шпацыраваў па беразе мора ён таксама без кампаніі. Гэта вельмі здзівіла сужэнцаў: мужчына сярэдніх гадоў, прыгожы, дагледжаны… але адзінокі! У нядзелю ўсё стала ясна. Гэты незнаёмы мужчына, які паводзіў сябе бездакорна, падчас Імшы заняў адрознае ад іншых вернікаў месца ў святыні – быў адным са святароў, якія стаялі пры алтары. Могуць узнікнуць пытанні: Ён саромеўся? Чаму не апранаў сутану ці, хаця б, каларатку? Адказ просты. Ксёндз – гэта звычайны чалавек, каторы, як і іншыя, хоча адпачыць, не прыцягваючы лішняй увагі. Не з-за сораму ён апранаецца як свецкі, а з-за жадання згубіцца ў натоўпе, выкраіць час для сябе”.

> Святар з’яўляецца святаром 24 гадзіны ў суткі без водпускаў і выхадных. Нават калі ён апрануты ў свецкае адзенне, надалей застаецца ксяндзом. Не мае таксама адпачынку ад малітвы і Эўхарыстыі. Ён святар заўсёды і ўсюды.

Безумоўна, усе павінны адпачываць, таксама і святары. У Кодэксе кананічнага права сказана, што “яны (*святары* – ***заўв. аўт.***) маюць права кожны год карыстацца водпускам неабходнай і дастатковай працягласці, акрэсленай універсальным ці патрыкулярным правам” (кан. 283, пар. 2). Самі духоўныя асобы падкрэсліваюць, што свой вольны час могуць праводзіць так, як ім падабаецца, аднак з захаваннем правіла “salus animarum suprema lex” (“хай будзе карысць душы вышэйшым законам”) і пры ўмове, што гэта будзе годным ксяндза.

## ЦЯЖКАСЦІ АДПАЧЫВАННЯ

Канешне, духавенства не заўсёды мае шанс на летні адпачынак. У асноўным, у сувязі з ходам літургічнага года: да канца чэрвеня трываюць чэрвеньскія набажэнствы, на ліпень і жнівень у некаторых парафіях прыпадаюць адпусты, часта дадаюцца таксама работы, звязаныя з рамонтам ці будаўніцтвам святыні. З-за гэтага часу на адпачынак застаецца сапраўды няшмат. “Канікулы буду мець у раі, калі добры Бог прыме мяне туды”, – жартуюць некаторыя ксяндзы. Таму многія святары, асабліва пробашчы, на працягу многіх гадоў не выкарыстоўваюць свой водпуск. Тым больш, што ў некаторых парафіях служыць толькі два, а часам нават адзін святар. А каб душпастыр мог выехаць у водпуск, яго павінен замяніць іншы.

Замена – нялёгкі занятак. Цяжка прадбачыць, як пройдзе гэты перыяд: спакойна ці раптам трэба будзе адправіць некалькі пахаванняў або шмат часу правесці ў канфесіянале. Аднак для парафіян гэта можа быць карысны і цікавы вопыт: іншы святар – іншы спосаб абвяшчэння казанняў і накладання епітым’і.

Такім чынам, канікулы святара нялёгкія ў арганізацыі: трэба выгадаць час, знайсці замену, узяць з сабой шмат неабходных рэчаў (сутану, брэвіярый і інш.). Вернікам варта заўсёды памятаць пра правы ксяндзоў на адпачынак, каб не выказваць беспадстаўных меркаванняў аб тым, ці яны ўвогуле павінны яго мець.

> Адно з самых частых пытанняў ад вернікаў – “Ці сапраўды ксяндзы ў водпуску адпраўляюць св. Імшу?”. Так, асабліва тыя, хто накіроўваецца адпачываць у іншую парафію, на рэкалекцыі ці ў пілігрымку. Некаторыя цэлебруюць св. Імшу прыватна. Бяруць з сабой набор, т. зв. “малы ксёндз”, у склад якога ўваходзяць мініяцюрныя літургічныя начынні. Іншыя адпраўляюць св. Імшы ў парафіях, дзе знаходзяцца ў гэты час.

*Падрыхтавала*
*Кінга Красіцкая*



ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ’ЕКТЫВЕ

# “Пасланне Найсвяцейшай Панны Марыі з Фацімы – шлях да пакаяння”

Пад такім дэвізам у санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем’яў у Тракелях адбыліся сёлетнія адпустовыя ўрачыстасці. У іх прынялі ўдзел вернікі з усёй Беларусі і з-за мяжы. Пілігрымы прыбылі, каб сустрэцца з Маці Божай – Заступніцай і Суцяшальніцай.

2-дзённыя ўрачыстасці, падчас якіх традыцыйна маліліся ў інтэнцыі ўсіх сем’яў дыяцэзіі і краіны, завяршыліся св. Імшой, якую ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.


















Лепш пытаць, чым памыляцца

***Ці можна выбіраць хросных бацькоў не з ліку католікаў, а сярод іншых хрысціянскіх канфесій?***

*Пытанне адносна выбару хросных бацькоў разглядаецца ў некалькіх дакументах каталіцкага Касцёла. Кодэкс кананічнага права (кан. 874) гаворыць, што ахрышчаны некатолік не можа быць хросным бацькам, але можа выступаць у якасці сведкі хросту. У 1990 годзе папа Ян Павел II выдаў для каталіцкіх Касцёлаў Усходу Кодэкс канонаў усходніх Касцёлаў. У гэтым дакуменце, між іншым, упамінаецца таксама пра тое, што праваслаўны хрысціянін можа быць хросным у тым выпадку, калі другі хросны з’яўляецца католікам. Наконт хросных бацькоў гаворыць таксама Дырэкторый аб экуменізме: “Абапіраючыся на супольным хросце, а таксама на роднаснай і сяброўскай сувязі, ахрышчаная асоба, якая належыць да іншай эклезіяльнай (царкоўнай –* ***заўв. аўт.****) супольнасці, можа быць сведкам хросту ў тым выпадку, калі другі хросны – католік. У сваю чаргу католік можа спаўняць такую ж ролю адносна асобы, якая збіраецца прыняць сакрамант хросту ў іншай эклезіяльнай супольнасці”.*

*Трэба памятаць аб тым, што ў таямніцы хросту чалавек упершыню сустракаецца з Богам у Хрысце і Касцёле, адкрывае для сябе магчымасць прыступаць да іншых сакрамантаў. Далейшую ж адказнасць за ўзрастанне ў веры ахрышчанай асобы нясуць не толькі родныя бацькі, але і хросныя. Таму пры іх выбары неабходна звярнуць увагу на тое, каб людзі жылі згодна з Божымі запаведзямі і маглі паклапаціцца аб духоўным развіцці іншай асобы.*

*Кс. Андрэй Лішко*
***Паводле grodnensis.by***






## Чаму Маці Божая аб'яўляецца ў цудадзейных абразах?



Напэўна, на зямлі няма месца, дзе б Найсвяцейшая Панна не пакінула след. Аднымі з такіх праяўленняў з'яўляюцца цудадзейныя абразы, праз якія Марыя працягвае чалавеку руку і прапануе сваю дапамогу. Ёсць такія і ў нашай дыяцэзіі. Адзін з іх знаходзіцца ў в. Тракелі (Радунскі дэканат). Паводле легенды, гэтую выяву з высакародней постаццю Багародзіцы з Дзіцяткам на руках у Беларусь прывезлі з Вільні ў 1595 годзе. Абраз двойчы заставаўся некранутым агнём падчас пажараў у касцёле. Пасля гэтых містычных падзей у народзе пачалі распаўсюджвацца сведчанні аб ласках, што Марыя дарує ў сваёй тракельскай выяве: невідушчы чалавек дакрануўся да абраза Маці Божай і стаў бачыць, дзяўчынка памалілася перад выявай Найсвяцейшай Панны і ацалілася ад паралічу ног. Па сёння ў санктуарыі ў Тракелях адбываюцца шматлікія цуды: аздараўленні ад раку крыві, бясплоддзя, рознага роду залежнасцей.

Людзі вераць і на ўласныя вочы пераконваюцца ў гаючай сіле малітвы да Марыі, якая сапраўды шмат чыніць для чалавека, дадае адвагі кожнаму, хто да Яе прыходзіць. Маці Божая моцна прагне, каб, нягледзячы на цяжкасці, вернікі крочылі да Неба. Няхай пацвярджэннем гэтай праўды будзе апавяданне Бруна Фэрэра “Па прыкладзе Марыі”.

**Аднойчы ноччу мне прысніўся незвычайны сон. Я ўбачыў доўгі шлях, які цягнуўся з зямлі ўверх і, накіроўваючыся да неба, знікаў у аблоках. Але гэта быў не просты шлях – поўны перашкод, усыпаны іржавымі цвікамі, каменнем, вострымі і рэжучымі кавалкамі шкла. Людзі ішлі гэтай дарогай басанож. Цвікі ўпіваліся ў цела. У многіх былі акрываўленыя ступні. Кожны крок выклікаў боль. Але нягледзячы на гэта, людзі не здаваліся, бо моцна хацелі трапіць ў Нябёсы.**

**Потым у сне я ўбачыў Хрыста, які ішоў наперадзе. Ён таксама крочыў басанож. Павольна, але ўпэўнена, ніразу не параніўшы ногі. Езус ішоў і ішоў. Нарэшце Хрыстос дасягнуў неба і сеў там на вялікі залаты трон. Ён глядзеў уніз, назіраючы за тымі, хто падымаўся. Позіркам і жэстамі запрашаў іх да сябе.**

**Адразу пасля Збаўцы ішла Марыя, Яго Маці. Яна ішла яшчэ хутчэй, чым Езус, бо ставіла свае ступні на сляды, пакінутыя Сынам. Такім чынам Марыя хутка дайшла да Хрыста, які пасадзіў Яе на вялікім крэсле па правым баку. Найсвяцейшая Панна таксама стала падбадзёрваць тых, хто падымаўся, заклікаючы ўсіх рухацца па слядах, пакінутых Езусам: гэтаксама, як рабіла Яна. Разумныя людзі паслухалі, і таму хутка крочылі ўверх. Іншыя ж часта спыняліся, скардзіліся на раны, а часам і цалкам здаваліся і падалі на абочыне дарогі, пераадоленыя смуткам..**

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Заданне:

**падумай, якія цяжкасці маеш у жыцці,і прадстаў іх Маці Божай, молячыся праз Яе заступніцтва.**

**Чакаем Тваіх “чаму”, якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**
На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Паважаны Ксёндз Юрый Барташэвіч!**
З нагоды Дня нараджэння ад усёй душы жадаем Вам здароўя, радасці, святла. Няхай Пан Бог дасць сілы, каб паслуга была плённай і здзяйсняліся ўсе планы ды задумы. Няхай Святы Дух заўжды дапамагае, а Анёл-ахоўнік аберагае ад непрыемнасцей. З нашымі малітвамі, што ўзносім кожны дзень за Вас, шчырым сэрцам і адкрытаю душою раздзяляем Ваш святочны час.
*Апостальства “Маргарытка” і парафіяне з Жырмунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вінцэнту Лісоўскаму**
з нагоды Імянін жадаем сіл, цярплівасці і стойкасці ў святарскай паслузе. Будзьце сапраўднай зброяй у руках Хрыста, навяртайце людзей да Бога, а таксама сваім жыццём і прыкладам давайце сведчанне аб Яго любові і штодзённай прысутнасці. Няхай Бог дапамагае Вам у гэтым сваімі ласкамі і дарамі Святога Духа, а Найсвяцейшая Маці няхай клапоціцца пра Вас.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліды*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму**
з нагоды Імянін сардэчна жадаем здароўя, сілы, надзеі, жыццёвай мудрасці, душэўнага супакою, Божага блаславення, апекі Панны Марыі і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны пражыты дзень прыносіць сілу і радасць для выканання душпастырскай працы. Шчасці Божа!
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, аптымізму, надзеі і апекі святога Заступніка. Няхай Вас заўсёды ахінаюць промні Божай міласэрнасці, Святы Дух адорвае сваімі ласкамі, а Маці Божая няспынна апекуецца. У гэты асаблівы дзень мы дзякуем Пану за Вашае жыццё, за адданую службу людзям, добрае сэрца і любоў да нас. Шчасці Божа!
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Мастоў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**
з нагоды Імянін жадаем Божага блаславення, сілы, душэўнага супакою, апекі святога Заступніка. Няхай Найсвяцейшая Маці нястомна атуляе Вас плашчом мацярынскай любові, а Святы Дух шчодра ўдзяляе свае дары. Няхай агонь святла, любові і дабра, што палае ў Вашым сэрцы, ніколі не гасне.
*Добразычлівыя вернікі з касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**Каханай Сястры Ганне**
з нагоды Імянін складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай сэрца штодня поўніцца радасцю ад паслугі Богу і людзям, здароўе не турбуе, а побач будуць добрыя і зычлівыя людзі. Няхай Найсвяцейшая Маці і Езус міласэрны апекуюцца Вамі, а Анёл-ахоўнік выпрошвае ва Усемагутнага неабходныя ласкі.
*Добразычлівыя вернікі з касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**
з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, сіл і цярплівасці ў святарскай паслузе, шчасця, радасці, дабрыні і любові на кожны дзень. Жадаем Божага благаслаўлення, усіх дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, а таксама зычлівых людзей побач.
*Жыхары в. Шэмбелеўцы*

**Любімая Сястра Стэла Ядкоўская!**
Мінула паўвека Твайго служэння Усемагутнаму Богу. Але не проста паўвека, а ўсё свядомае жыццё, якое Ты аддана ахвяравала Пану і бліжняму. Як гэта цудоўна і як цудоўна тая, якая не пабаялася стаць на гэты няпросты, а ў дадатку яшчэ і небяспечны шлях у цёмныя часы панавання багаборніцтва і татальнага абязлічвання насельніцтва. Цётка Аня... Для мяне – мамуська! Сціплая і часам сарамлівая. Адважная і непрымірымая са злом і фальшшу. Клапатлівая і чуллівая. Мудрая і цярплівая. Працавітая, якая з павагай ставіцца да ўсякай работы, з прамяністай радасцю прымае поспехі іншых і стала моліцца за патрабуючых. Сонейка, што нястомна нясе свет Хрыста ў гэты зменлівы свет. Ад удзячных вучняў дзякую Богу за Цябе, а Табе – за веру. Моцна прагну быць хоць крышачку падобнай да Цябе.
*З малітвай, Марына Буйніцкая*

**Паважанага Ксяндза Пробашча Віталія Цыбульскага**
сардэчна віншуем з Днём імянін! Жадаем моцнага здароўя, неабходных сіл у святарскім служэнні, душэўнага супакою і Божага блаславення на кожны дзень жыцця. Дзякуем Пану Богу за ласку спаткання з Вамі ў нашай святыні. Няхай усе мары і задумы здзяйсняюцца, а міласэрны Бог адорвае сваёю любоўю, дабрынёй і цяплом.
*З удзячнасцю і павагай, вернікі з касцёла св. Казіміра ва Уселюбе*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**
з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем шмат радасці і душэўнага супакою, сіл і цярплівасці ў штодзённай паслузе, а таксама добрых і зычлівых людзей навокал. Няхай Пан Бог штодзённа Вас благаслаўляе, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай і любоўю, а Святы Дух спасылае шчодрыя дары. Шчасці Божа!
*З малітвай, вернікі з в. Малінавая*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю і Ксяндзам Эдуарду Сінкевічу і Аляксандру Фядотаву**
сардэчна дзякуем за падрыхтоўку дзяцей да Першай Святой Камуніі і арганізацыю ўрачыстасцей з гэтай нагоды. Выразы ўдзячнасці складаем таксама за цудоўнае правядзенне “Канікул з Богам” для дзяцей.
*Удзячныя бацькі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, людской зычлівасці, а таксама ўсіх Божых ласкаў, апекі Панны Марыі і святога Заступніка. Дзякуем за адкрытае сэрца, адданае служэнне, мудрыя казанні і парады, клопат пра нас і святыню. Нізкі паклон за працу ў нашай парафіі!
*Вернікі з касцёла ў Раготне*

**Паважанай Спадарыні Тэрэсе Стэцкевіч, дырэктару хору “Cantate Domino”,**
з нагоды Юбілею ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў і сталай апекі Маці Божай. Няхай Усемагутны адорыць Вас добрым здароўем на доўгія гады жыцця, цярплівасцю, стойкасцю і душэўным супакоем. Няхай Ваша прыгожае служэнне прыносіць шчодры плён, радасць і задавальненне, а побач будуць добразычлівыя і шчырыя людзі.
*Хор “Cantate Domino”*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Чэслаў Паўлюкевіч!**
З нагоды Імянін жадаем, каб як душпастыр Вы імкнуліся да мэты і стала адкрывалі дар і сэнс пакликання. Жадаем таксама стойкасці і цярплівасці, усіх Божых дароў, апекі Найсвяцейшай Панны, моцы ў руках і чыстага полымя ў сэрцы. Няхай Вас благаслаўляе Бог!
*З малітвай, парафіяне з Росі*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр.**№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лаўшы, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3475; тыраж 4970; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная